# Голас Радзімы

№ 41 (2079)
13 кастрычніка 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Гаспадар гэтай птушынай фермы Васіль **ВОРАНАЎ** (на здымку) жыве ў вёсцы Мнюта Глыбоцкага раёна. Ужо дзесяць гадоў, як ён на пенсіі. Вольнага часу дастаткова, і Васіль Пятровіч на сваёй сядзібе час ад часу робіць нешта такое, што здзіўляе аднавяскоўцаў. Вырошчвае экзатычныя дрэвы і кветкі, заводзіць пчол. Неяк наведаў Выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі СССР у Маскве і ўбачыў там незвычайных курэй. Так яны яму спадабаліся, што сумеў дамовіцца наконт пакупкі адной пары. І вось іх у двары стала столькі, што гаспадар нават збіўся з ліку. Ну а я бачыў такіх вялізных курэй упершыню. Па сваіх памерах яны амаль роўныя гусакам.

Фота М. **АМЕЛЬЧАНКІ**.

# ПЛЕНУМ ЦК КПБ

У Мінску адбыўся чарговы XI пленум Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі.

Пленум прааналізаваў, як на справе ў рэспубліцы выконваюцца рашэнні, прынятыя XIX партканферэнцыяй, якія ёсць поспехі, што перашкаджае руху наперад. Таксама было разгледжана пытанне аб рэарганізацыі і скарачэнні апарату Цэнтральнага Камітэта КПБ, абласных камітэтаў партыі.

З дакладам перад удзельнікамі пленума выступіў першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў.

На пленуме зрабіў справаздачу старшыня Дзяржаграпрома БССР Ю. Хусаінаў аб перабудове ў рабоце рэспубліканскай сельскай гаспадаркі, развіцці харчовай і перапрацоўчай галін прамысловасці.

## З ДАКЛАДА ПЕРШАГА САКРАТАРА ЦК КПБ ЯФРЭМА САКАЛОВА

● Дэлегацыя Кампартыі Беларусі на XIX Усесаюзнай партканферэнцыі паставіла пытанне аб пераходзе рэспублікі на прынцыпы гаспадарчага разліку і самафінансавання. Савет Міністраў СССР прыняў нашу прапанову.

З аднаго боку, гэта расшырае самастойнасць рэспублікі, яе абласцей, гарадоў і раёнаў у развіцці эканомікі і культуры, з другога — павышае адказнасць кіруючых кадраў, вучоных, спецыялістаў, усіх працаўнікоў за высокаэфектыўнае выкарыстанне навуковага, вытворчага, эканамічнага і духоўнага патэнцыялу. Гэта таксама і шлях ломкі адміністрацыйна-камандных метадаў кіравання, пазбаўлення ад утрыманскіх настрояў і месніцтва.

Тэрытарыяльны гаспадарчы разлік павінен дакладна вызначыць эканамічнае аблічча рэспублікі і кожнага яе рэгіёна. Нашымі прынцыпамі павінны стаць: працаваць з поўнай аддачай, расходы — па даходах, жыць — па сродках.

Якія ж перадумовы мы маем для такога кроку?

У рэспублікі высокаінтэлектуальны кадравы патэнцыял, дастатковая колькасць навучальных устаноў для падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі спецыялістаў, у тым ліку і работнікаў масавых прафесій.

У нас ёсць Акадэмія навук, якая вядзе даследаванні як фундаментальнага, так і прыкладнога характару, цэлы рад галіновых навуковых устаноў.

У рэспубліцы высокаразвітая прамысловасць. Яе многія галіны вызначаюць навукова - тэхнічны прагрэс, высокамеханізаваная сельская гаспадарка, магутны будаўнічы комплекс, шырока разгалінаваная сетка аўтамабільных, чыгуначных, паветраных шляхоў.

Словам, мы маем усё неабходнае для нарошчвання вытворчасці самых сучасных машын і механізмаў, тавараў народнага спажывання, прадуктаў харчавання.

Калі ўзяць такі абагульняючы паказчык, як нацыянальны даход, то за два гады ён павялічыўся на 11,2 працэнта пры плане 9,1. Практычна ўся прыбаўка атрымана за кошт павышэння прадукцыйнасці грамадскай працы.

Атрыманы аб'ём нацыянальнага даходу перавышае выкарыстоўваемую яго частку на спажыванне і накапленне больш чым на 3 мільярды рублёў — на 16 працэнтаў. У цэлым вываз прадукцыі ў вартасным выражэнні больш яе ўвозу на 1,2 мільярда рублёў— на 6,2 працэнта.

У структуры ж вывазу пераважаюць гатовыя вырабы. Таму баланс увозу і вывазу складваецца на карысць рэспублікі.

● Каб авалодаць пасапраўднаму ўнутраным рынкам, трэба пагаспадарску выкарыстоўваць усё тое, што мае рэгіён.

Запатрабуецца больш шырокі выхад і на знешні рынак. Цяпер маштабы і структура экспарту не задавальняюць патрэбнасці народнай гаспадаркі рэспублікі. Дзяржплану, знешнегандлёвым арганізацыям разам з міністэрствамі і ведамствамі Беларусі неабходна ажыццявіць канкрэтныя меры па паскоранаму развіццю экспартнай базы рэспублікі, з тым каб ужо ў бліжэйшыя гады ў 2—3 разы павялічыць аб'ём тавараабароту з зарубежнымі краінамі.

● Партыйнае ўздзеянне на ўсе бакі жыцця павінна ўзмацняцца. Але ажыццяўляць, рэалізоўваць сваё авангарднае становішча ўсім звенням партыі неабходна ўжо інакш. Перад імі ва ўвесь рост паўстае задача авалодання палітычнымі метадамі кіраўніцтва.

Буйным крокам на гэтым шляху стане рэарганізацыя партыйнага апарату на аснове ўстановак XIX Усесаюзнай партканферэнцыі і толькі што прайшоўшага Пленума ЦК КПСС. Як, на якім узроўні будзе праведзена гэта работа, вельмі важна не толькі для цяперашняга, пераломнага моманту ў жыцці партыі і краіны, але і для будучыні.

Пры рэарганізацыі нельга абмежавацца паўмерамі, палавінчатымі крокамі. Недапушчальныя ў гэтай справе ніякія паліятывы. Рашэнні павінны быць кардынальнымі.

У ЦК КПБ скасоўваюцца галіновыя аддзелы, за выключэннем сельскагаспадарчага. Замест 18 аддзелаў будзе 9: арганізацыйна - партыйнай і кадравай работы, ідэалагічны, сацыяльна - эканамічны, аграрны, дзяржаўна - прававы, агульны, кіраўніцтва справамі, Камісія партыйнага кантролю.

Колькасць адказных работнікаў скароціцца на 30 працэнтаў: з 234 да 163.

Аналагічныя аддзелы будуць і ў абкомах партыі. Іх апарат таксама скароціцца ў межах 30 працэнтаў.

● ЦК Кампартыі Беларусі, урад рэспублікі паслядоўна праводзяць лінію на рэалізацыю доўгатэрміновых і апаратыўных мер па развіццю беларуска - рускай двухмоўнасці, павышэнню ролі беларускай мовы і культуры ў грамадскім жыцці.

Прыняты важныя рашэнні па развіццю Акадэміі навук БССР, Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна, захаванню гісторыка - культурных ансамбляў у Нясвіжы і Заслаўі, удасканаленню эстэтычнага выхавання моладзі. У праграму работы партыйных, савецкіх органаў па перабудове народнай асветы ўключаны спецыяльны раздзел па беларуска-рускай двухмоўнасці, паляпшэнню патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання.

У гарадах рэспублікі адкрываюцца беларускамоўныя дзіцячыя сады і класы ў агульнаадукацыйных школах, расшырыліся маштабы вывучэння роднай мовы ў вышэйшых навучальных установах, растуць тыражы выданняў на беларускай мове, узбагачаецца творамі беларускіх аўтараў рэпертуар творчых прафесіянальных і самадзейных калектываў. Ажыццяўляюцца меры па паляпшэнню падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў для выкладання беларускай мовы, літаратуры.

Зразумела, гаворка не ідзе аб фарсіраванні, загадным вырашэнні праблемы. Яна можа і павінна ажыццяўляцца праз творчыя, ініцыятыўныя адносіны да справы як з боку камуністаў, якія працуюць у рэспубліканскіх міністэрствах і падведамных ім арганізацыях, так і ў мясцовых партыйных, савецкіх, прафсаюзных, камсамольскіх, гаспадарчых органах, ва ўстановах культуры і творчых саюзах.

ПАДРАД У ВЁСЦЫ



25-гадовы жыхар Калінкавічаў Аляксандр Валынкін стаў нядаўна арандатарам. У яго распараджэнні — ферма, абсталяваная механізмамі для раздачы кармоў, водаправодам, транспарцёрам, ёсць трактар, прычэп, іншы неабходны інвентар. Арандаваў усё гэта Валынкін у калінкавіцкага кормапрадпрыемства «Рудня».

За выкармленых і здадзеных гаспадарцы бычкоў муж і жонка Валынкіны сёлета атрымалі больш за 4 тысячы рублёў.

Новая справа аказалася выгаднай і прадпрыемству, і дзяржаве, і фермеру-арандатару. Ужо ёсць жадаючыя ўзяць прыклад з Валынкіных, таму ў гаспадарцы вырашана да канца года пабудаваць яшчэ дзве адкормачныя пляцоўкі.

НА ЗДЫМКУ: арандатар Аляксандр ВАЛЫНКІН.

ВІЗІТЫ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ СЛАВЕНІІ

У Мінску два дні знаходзілася дэлегацыя Выканаўчага веча Скупшчыны Сацыялістычнай Рэспублікі Славеніі (СФРЮ) на чале з яго старшынёй Д. Шынігоем.

У Савеце Міністраў БССР прайшлі перагаворы. Падпісаны пратакол аб далейшым развіцці ўсебаковага супрацоўніцтва паміж дзвюма рэспублікамі.

Дэлегацыя Славеніі была прынята ў Цэнтральным Камітэце Кампартыі Беларусі.

У час знаходжання ў сталіцы рэспублікі члены дэлегацыі наведалі навукова-вытворчае аб'яднанне «Планар», вытворчае аб'яднанне «Інтэграл», удзельнічалі ў адкрыцці прадстаўніцтва гандлёва-прамысловага аб'яднання «Славеніялес» у Мінску

Госці ўсклалі кветкі да помніка У. І. Леніну і да Вечнага агню мемарыяла ў Хатыні.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## ЗАКЛЮЧАНЫ ДАГАВОР

Расшыраюцца кантакты паміж работнікамі сродкаў масавай інфармацыі Польшчы і Савецкага Саюза. У Варшаве старшыня Польскага агенцтва друку (ПАП) Багдан Яхач, дырэктар тэлеграфнага агенцтва Беларускай ССР (БЕЛТА) Уладзімір Хількевіч, дырэктар Радыё-тэлеграфнага агенцтва Украіны (РАТАУ) Уладзімір Бурлай падпісалі дагаворы аб супрацоўніцтве паміж ПАП і савецкімі рэспубліканскімі агенцтвамі.

Прадугледжваецца весці рэгулярны абмен матэрыяламі аб прамых кантактах паміж ваяводствамі, абласцямі, раёнамі і гарадамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі гэтых савецкіх рэспублік і Польшчы, праводзіць абменныя камандзіроўкі журналістаў, якія займаюцца праблемамі краіны-партнёра.

Журналістаў Савецкага Саюза і ПНР звязвае даўняя дружба. Цяпер сувязі падтрымліваюць каля 120 рэдакцый газет і часопісаў асобных рэспублік, краёў, абласцей і раённых цэнтраў СССР і ваяводстваў ПНР.

ТЭХНІЧНАЕ АБНАЎЛЕННЕ

## ПРАЦУЕ ФІНСКАЯ ЛІНІЯ

На Мазырскім солевыварачным камбінаце змантавана фінская тэхналагічная лінія, якая аўтаматызуе фасоўку гатовай прадукцыі ў папяровыя пакеты, а таксама яе пакаванне ў спецыяльную плёнку. Гэта дазволіць амаль поўнасцю ліквідаваць ручную працу.

Укараненне прагрэсіўнай тэхнікі і тэхналогіі спрыяе і павышэнню якасці прадукцыі. Так, на камбінаце нядаўна пачала працаваць лінія па выпуску солі з дабаўкамі, якія не дапускаюць яе акамянення. Тут, згодна з новай тэхналогіяй, атрыманы першыя партыі ёдаванай, а таксама прафілактычнай і лекавай солі.

НА РАДАСЦЬ ДЗЕЦЯМ

## ЗАПРАШЭННЕ Ў КАЗКУ

Забаўныя драўляныя чалавечкі выраслі перад будынкамі калгаснага дзіцячага сада, музычнай і сярэдняй школ у вёсцы Бердаўка, што пад Лідай. Кожную раніцу дзяцей тут сустракаюць прыгажуня царэўна і Лесавічок, волаты і Баба-Яга, многія іншыя казачныя персанажы. Знайшлося месца ў гарадку і горкам для катання, церамкам, альтанкам, пафарбаваным ва ўсе колеры вясёлкі.

А падарыў усё гэта дзятве студэнцкі атрад Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута, які прыязджаў у мясцовы калгас на практыку.

ГАНДАЛЬ





Новы магазін «Гарачы хлеб» стаў асабліва папулярным у мінчан. Ён адкрыты нядаўна каля прахадной хлебазавода № 6. У магазіне багаты выбар пахучых пышных батонаў і хлеба.

НА ЗДЫМКАХ: магазін «Гарачы хлеб»; смачны і свежы хлеб прапаноўвае пакупнікам Валянціна ШЫБАЛКА.

**Крыху болей за год прайшло з часу нашай сустрэчы з Леанідам КЛЯЦКОВЫМ, Героем Сацыялістычнай Працы, першым сакратаром Гродзенскага абласнога камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. Мяркую, нашы пастаянныя чытачы памятаюць леташнюю публікацыю.**

**Так, прайшоў год. Здаецца, не вельмі вялікі адрэзак часу, каб можна было гаварыць пра кардынальныя змены ў жыцці. Але нельга забываць, што перабудова надае яму асаблівае паскарэнне. І год гэты ўмясціў у сябе такую, сапраўды гістарычную для нас, савецкіх людзей, падзею, як XIX Усесаюзная партыйная канферэнцыя ў Маскве. Леанід Кляцкоў быў на ёй сярод членаў беларускай дэлегацыі. І таму, натуральна, наша гутарка пачалася з таго, што я папрасіла Леаніда Герасімавіча падзяліцца ўражаннямі аб убачаным, пачутым, перажытым у тыя летнія дні ў сталіцы Савецкай краіны.**

## *СУСТРЭЧА ПРАЗ ГОД*

# ЖЫЦЦЁ АТРЫМЛІВАЕ ПАСКАРЭННЕ

— Зразумела, эмацыянальная вастрыня ўражанняў ужо крыху прытупілася. Гэта і натуральна, час ідзе, і, бадай, кожны новы дзень нясе свае эмоцыі, перажыванні. Але час выкрышталізаваў і тое незабыўнае, што ўжо застанецца са мной назаўсёды. І самае галоўнае тут — атмасфера адкрытасці, што панавала падчас усіх пасяджэнняў. Дэлегаты гаварылі тое, што думалі, нічога не баяліся, не бянтэжыліся. Наша сённяшняя раскаванасць, шчырасць — найбольш каштоўны вынік працэсу дэмакратызацыі, што развіваецца ў краіне.

Запомнілася сапраўднае сутыкненне думак, прынцыповасць пры абмеркаванні і прыняцці рашэнняў. Мяне ўключылі ў камісію, якая павінна была распрацаваць рэзалюцыю аб палітычнай рэформе. Яе ўзначальваў Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў. І вось нам давялося збірацца на свае пасяджэнні двойчы, пакуль прыйшлі да агульнай думкі: такі бурны характар прыняў ход абмеркавання. І нават потым асобныя пункты з прапанаванага праекта рэзалюцыі ставіліся на галасаванне ўсёй канферэнцыі.

*— Ці прадугледжвае палітычная рэформа своеасаблівае пераразмеркаванне ўлады паміж партыйнымі і савецкімі органамі кіравання?*

— Апошнім часам нярэдка можна чуць, што партыйны камітэт «захапіў» у Саветаў эканамічную, гаспадарчую ўладу. Дазволю сабе не згадзіцца з катэгарычнасцю падобнага выказвання. На рэгіянальным узроўні, напрыклад, на нашым, абласным, нават імкнення да такога «захопу» ніколі і не было. Мы, абком партыі, проста фізічна не здолелі б выконваць увесь велізарны аб'ём гаспадарчай работы. У нас у апараце проста не хапіла б для гэтага людзей: у аблвыканкоме супрацоўнікаў у 5—6 разоў больш.

Я заўсёды лічыў і лічу, што кіраваць эканомікай, гаспадаркай рэгіёна павінен адпаведны мясцовы Савет, і толькі ён, і ў поўным аб'ёме. Але, на жаль, не ўсюды і не заўсёды так атрымлівалася. Хто вінаваты? Думаю, вінаватыя ёсць і з аднаго, і з другога боку. Зараз трэба «не крайняга шукаць», а выпраўляць пралікі.

А перадаць уладу лягчэй, чым яе прыняць, і разам з ёю ўзваліць на свае плечы груз непазбежных праблем і адказнасць за іх вырашэнне.

*— Напярэдадні нашай сустрэчы, у інтэрв'ю, якое даў журналістам Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Георгій Таразевіч, сярод іншых прыгадваўся і такі прыклад: Гродзенскі абласны Савет дабіўся, каб у Скідалі адмянілі будаўніцтва біяхімічнага завода. Як усё ж такі прыйшлі да такога рашэння? Ці можна назваць яго прыкладам перабудовы на справе?*

— Так, у нечым гэта праяўленне новага ў нашым жыцці. Аналізавалі ж становішча, што склалася ў Скідалі, і грамадскасць, і спецыялісты, і дэпутаты мясцовага, Скідальскага, і абласнога Саветаў, і партыйныя ўстановы.

Мы, як і іншыя зацікаўленыя бакі, выказалі сваё меркаванне, рэкамендацыі. Але ж прыняць канчатковае рашэнне — было цалкам ва ўладзе сесіі Савета, што яна і зрабіла.

*— Па якіх жа прычынах вырашылі біяхімічны завод не будаваць?*

— Нічога сенсацыйнага тут няма. Завод павінен быў перапрацоўваць арганічныя адходы мясцовай цукровай вытворчасці, якая, як выявілася, не здольная забяспечыць новае прадпрыемства сыравінай у дастатковай колькасці. Дапусцілі, як мы пераканаліся, памылку і праекціроўшчыкі. Ды вынеслі будоўлю і сам завод вельмі блізка да жылых раёнаў Скідаля. Акрамя таго, Скідаль месціцца па Нёману вышэй, чым водазаборы Гродна. У выпадку аварыі, а яны, на жаль, таксама яшчэ не выключаны, гэта небяспечна. Ды і наогул, калі ўсё яшчэ раз пралічылі, прыйшлі да высновы: будоўля новага завода запатрабуе вялікіх капітальных укладанняў, а гэта непазбежна негатыўна адаб'ецца на развіцці сацыяльнай сферы ў вобласці, чаго мы не маем права дапускаць. За прыярытэт сацыяльнага будаўніцтва (жылля, школ, магазінаў, бальніц і г. д.) выказалася, як памятаеце, і XIX партканферэнцыя.

*— Як, дарэчы, зараз справы ў вобласці з прадуктамі харчавання, медыцынскім абслугоўваннем, жыллём? Ці адбыліся за апошні час станоўчыя змены?*

— Паляпшэнне ёсць ва ўсім. Будуем новыя дамы, школы, бальніцы, магазіны як у гарадах, так і ў сельскай мясцовасці. Ужо ёсць нямала калгасаў, якія маюць у сябе ў вёсках музычныя школы, спартыўныя комплексы, гасцініцы, кафэ і рэстараны. Але ўсе гэтыя дабратворныя працэсы пакуль не такія інтэнсіўныя і глыбокія, як нам таго хацелася б. Трэба яшчэ вельмі многа і настойліва працаваць.

І, што асабліва непакоіць, побач з прагрэсіўнымі, станоўчымі зрухамі з'явіліся і негатыўныя. Напрыклад, у магазінах стала менш танных прамысловых тавараў. Заводы і фабрыкі, што іх выпускаюць, перайшлі на прагрэсіўнае ў эканамічным плане самафінансаванне і гаспадарчы разлік, гэта значыць, жывуць і развіваюцца за кошт атрыманых ад рэалізацыі сваёй прадукцыі прыбыткаў. Вось іх і «пацягнула» вырабляць рэчы даражэйшыя, каб прыбытак павышаўся. З гэтым мірыцца нельга і не будзем, але праблема пакуль яшчэ існуе.

*— Беларусь у параўнанні з многімі іншымі рэгіёнамі краіны мае добрыя вынікі ў вытворчасці збожжа, мяса, малака, гародніны. А ў межах рэспублікі адзін з лідэраў традыцыйна Гродзенская вобласць. У чым ваш галоўны сакрэт ці сакрэты?*

— Прыемна чуць добрае пра нашу Гродзеншчыну. І хоць сакрэтаў у нас ніякіх няма, усё ж выкажу такое меркаванне (няхай на мяне не крыўдуюць іншыя): можа, крышку лепей працуюць гродзенцы? Бо перакананы: усё залежыць ад людзей, ад іх адносін да справы, кампетэнтнасці і прафесіяналізму.

А наогул у нас таксама, як усюды ў сельскай гаспадарцы рэспублікі, шырока распаўсюджаныя падрадныя формы арганізацыі працы. Гэта значыць, што нейкае вытворчае звяно ці асобная сям'я бяруць падрад, скажам, на вырошчванне буракоў. Калгас выдзяляе ім зямлю, насенне, угнаенні, тэхніку. А ад падраднага калектыву патрабуецца вырасціць добры ўраджай. Чым большы ён атрымаецца і з меншымі выдаткамі, тым вышэйшы будзе заработак тых, хто яго вырошчваў. Усё гэта вельмі проста і ўжо дае значны эканамічны эфект.

Стараемся таксама зацікавіць калгасы і саўгасы ў развіцці дапаможных промыслаў. Такая дзейнасць дазваляе заняць работнікаў у міжсезонне, зімой дае магчымасць зарабіць больш грошай і калгасу, і селяніну. Карацей, усім выгадна. Ужо з'явіліся ў некаторых гаспадарках першыя прамысловыя арцелі, нават цэхі і філіялы заводаў, фабрык. Але з жалем прыходзіцца канстатаваць, што пакуль гэта часцей бываюць філіялы прыбалтыйскіх ці маскоўскіх фабрык і заводаў. Свае ж, беларускія, ніяк не разварушацца, не зацікавяцца новай справай.

*— Леанід Герасімавіч, а як вы ставіцеся да тэрытарыяльнага, рэгіянальнага гаспадарчага разліку?*

— Станоўча. У тым ліку і на міжрэспубліканскім узроўні. Гэта стане для ўсіх добрым стымулам працаваць больш эфектыўна. Дарэчы, і ў адной з рэзалюцый партканферэнцыі падкрэслівалася, што кожная рэспубліка, кожны яе грамадзянін павінны дакладна ўяўляць і ўмець лічыць, колькі і што здолелі вырабіць самі і што і колькі завозіцца з іншых раёнаў краіны для задавальнення мясцовых патрэб.

Гэта ж у сваю чаргу дазволіць аздаравіць і тую глебу, на якой мацуюцца міжнацыянальныя адносіны, што сёння вельмі важна.

*— Тут, у заходніх раёнах рэспублікі, нацыянальны састаў насельніцтва асабліва неаднародны. Як складваюцца міжнацыянальныя адносіны ў вас, на Гродзеншчыне?*

— Добра. Але гэта не значыць, што міжнацыянальныя адносіны пакінуты па-за ўвагай. Безумоўна, не. Як вядома, пажар можа ўспыхнуць і ад адной іскры. Таму важна, каб жыхар любой нацыянальнасці ўсюды адчуваў сябе як дома.

*— Для Гродзеншчыны Польшча — самы блізкі сусед. Як цяпер развіваюцца прыгранічныя сувязі?*

— Лічу, што паспяхова. Узаемны абмен (маю на ўвазе паездкі людзей) павялічыўся за апошні год больш чым у два разы. Пашыраюцца сувязі паміж вытворчымі прадпрыемствамі, сельскагаспадарчымі арганізацыямі, навучальнымі ўстановамі. Адбываецца абмен тэхналогіямі, тэхнічнымі рашэннямі. Асабліва актыўна гэта праяўляецца на нашай гродзенскай тонкасуконнай фабрыцы. Гродзенскі універсітэт цесна супрацоўнічае з філіялам Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. А тэатры Гродна і Беластока разам ставяць спектаклі. Прыводзіць прыклады можна яшчэ і яшчэ.

*— А як складваюцца ў абласнога камітэта партыі ўзаемаадносіны з моладдзю, нефармальнымі грамадскімі аб'яднаннямі, якіх становіцца ўсё больш?*

— Мы да «сваіх» нефармалаў стараемся адносіцца з разуменнем. З разуменнем іх праблем, клопатаў, а часам і сапраўднага болю. Некаторыя нашы гродзенскія юнакі, дзяўчаты, студэнты універсітэта склалі нефармальнае аб'яднанне «Паходня» і займаюцца вывучэннем роднай гісторыі, аберагаюць тыя яе «памяткі», што яшчэ захаваліся ў сучасным жыцці, займаюцца аднаўленнем помнікаў. Гэта, безумоўна, карысная для грамадства справа, і яе трэба падтрымліваць. Дарэчы, я меў сустрэчы з кіраўніком «Паходні», гродзенскім вучоным-гісторыкам, доктарам навук Міколам Ткачовым. І мы, спадзяюся, разумеем адзін аднаго. Прапанавала, напрыклад, «Паходня» стварыць музей гісторыі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, дзеячы якой вялі рэвалюцыйную барацьбу ва ўмовах акупацыйнага рэжыму буржуазнай Польшчы ў 30-я гады. Што ж тут дрэннага? Добрая, цікавая ідэя. Ёсць жаданне — няхай займаюцца людзі тым, што іх хвалюе.

Трэба, безумоўна, адраджаць у сваіх правах і беларускую мову, што стала, бадай, галоўнай справай многіх нашых беларускіх нефармальных аб'яднанняў, у тым ліку і маладзёжных. Праблема настолькі балючая і складаная, што вырашыць яе можна толькі агульнымі намаганнямі ўсяго грамадства. І трэба абавязкова ўлічваць, што адміністрацыйныя метады ў гэтай сітуацыі не дапамогуць, яны будуць нават шкоднымі. Канфрантацыя асобных зацікаўленых бакоў, груп недапушчальная.

Але ж, на жаль, ёсць асобы, якія імкнуцца ўнесці разлад, проціпаставіць, сутыкнуць нефармальныя аб'яднанні і партыйна-дзяржаўныя органы. Гэта небяспечна. І ў першую чаргу для лёсу самой справы, за якую ўсе хвалююцца.

Гродна — старажытны горад. Гродзеншчына — шчодрая, прыгожая зямля, часціна нашай Беларусі, чый лёс непадзельны з лёсам кожнага яе куточка. Мы пра гэта заўсёды памятаем.

*— Шчыра дзякую вам, паважаны Леанід Герасімавіч, поспехаў вам, поспехаў вашым землякам!*

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

# *МІФ АБ КАСМІЧНЫМ ЧАРНОБЫЛІ*

Дык куды ж павінен быў упасці спадарожнік «Космас-1900»: на Нью-Йорк ці на Заходнюю Еўропу? Калі верыць паведамленням амерыканскай прэсы, у Нью-Йорку праводзіліся праверкі гатоўнасці і распрацоўваліся планы надзвычайных мерапрыемстваў на той выпадак, калі спадарожнік з ядзернай устаноўкай і 45 кілаграмамі урану ўпадзе на горад.

Напрыклад, паліцэйскае ўпраўленне (?) Нью-Йорка вылічыла, што падзенне спадарожніка на горад «мала верагодна, але магчыма», і для большай пэўнасці прыводзіліся нават лічбавыя пацвярджэнні. Цікава, якой методыкай карысталася паліцэйскае ўпраўленне? Калі ўлічыць, што ў космасе знаходзяцца тысячы розных касмічных аб'ектаў, уключаючы, зразумела, і амерыканскія апараты, то ледзь ці не пра кожны з іх можна сказаць такія ж словы. І калі трымацца гэтай логікі, то ўсе адпаведныя службы Нью-Йорка павінны быць у стане пастаяннай гатоўнасці.

Некаторыя з амерыканскіх газет і афіцыйных асоб разважаюць аб «савецкай неахайнасці»: вось, маўляў, быў зямны Чарнобыль, цяпер з'явіўся касмічны, і касманаўты ў час савецка-афганскага палёту ледзь не загінулі з-за ненадзейнай работы аўтаматыкі. Неабходна асудзіць СССР, раздаюцца галасы, за стварэнне сітуацый, у якіх людзям ва ўсім свеце даводзіцца гадаць, ці не зваляцца на іх кавалкі ядзернага рэактара.

Практыка паказвае, што сітуацыі на касмічных трасах бываюць і нечаканымі, як бы іх старанна ні разлічвалі. Хіба не ішоў да Зямлі, напрыклад, з месячнай трасы «Апалон-13» з зусім нечаканымі вынікамі і для экіпажа, і для тых, хто мог аказацца ў раёне прызямлення карабля? Або ўспомнім, як амерыканская арбітальная станцыя «Скайлэб» паступова губляла вышыню, пагражаючы ў выпадку падзення ў населеныя месцы выклікаць катастрафічныя разбурэнні? Можа, лепш не пускацца ў разважанні аб савецкай ці амерыканскай «неахайнасці», а паспрабаваць аб'ектыўна ацаніць і сітуацыю, і канкрэтныя меры, якія прымаюцца ў СССР ці ЗША для бяспекі касмічных палётаў.

Савецкія спецыялісты распрацавалі некалькі спосабаў, якія прымяняюцца для таго, каб сход апарата з арбіты не пагражаў непрыемнымі вынікамі. Што тычыцца савецкага спадарожніка, то, паводле паведамлення ТАСС, 1 кастрычніка 1988 года на спадарожніку «Космас-1900» з ядзернай энергетычнай устаноўкай аўтаматычна спрацавала сістэма забеспячэння радыяцыйнай бяспекі.

У адпаведнасці з логікай работы бартавых сістэм спадарожніка, быў выключаны рэактар, адбылося яго аддзяленне ад спадарожніка і перавод на арбіту працяглага існавання, на якой адбудзецца распад радыеактыўных прадуктаў рэактара да бяспечнага ўзроўню.

2 кастрычніка 1988 года частка спадарожніка, што засталася, і якая радыяцыйна бяспечная, увайшла ў шчыльныя слаі атмасферы і спыніла сваё існаванне над акваторыяй Індыйскага акіяна.

## БССР: ШЛЯХІ СТАНАЎЛЕННЯ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

# АРЫЕНТАЦЫЯ

БЕЛАРУСКАЯ Савецкая Рэспубліка напярэдадні свайго сямідзесяцігоддзя. Юбілей — гэта ўсведамленне сучаснасці і зварот да мінуўшчыны. Таму зразумелая павышаная ўвага грамадскасці да гістарычных умоў станаўлення рэспублікі і, у прыватнасці, да характару проціборства палітычных сіл у нацыянальнай сферы. У супастаўленні выразна акрэсліваюцца іх класавыя асновы праграм і дзеянняў, ідэалагічныя ўстаноўкі, высвечваюцца фактары, якія вызначылі поспех аднаго боку і паражэнне другога.

Праціўнікі пралетарскай дыктатуры разумелі, што для ажыццяўлення праграмы «беларускага адраджэння», якую яны адстойваюць, неабходна аб'яднанне сіл, стварэнне кіруючага цэнтра.

Звяржэнне самадзяржаўя ў Расіі выклікала да жыцця Беларускі нацыянальны камітэт, аформлены з'ездам «беларускіх грамадскіх дзеячаў». На другім з'ездзе, летам 1917 года, была створана Цэнтральная рада беларускіх арганізацый. У кастрычніку 1917 года яна трансфармавалася ў Вялікую беларускую раду, якая прэтэндавала на ролю выразніка нацыянальных і сацыяльных інтарэсаў беларусаў і нават на ажыццяўленне дзяржаўных функцый.

З усталяваннем Савецкай улады Вялікая беларуская рада сумесна з Беларускім абласным камітэтам, утвораным у Петраградзе з прадстаўнікоў беларускіх губерняў на Усерасійскім сялянскім з'ездзе, склікала ў снежні 1917 года ў Мінску Беларускі з'езд з мэтай вырашэння пытанняў дзяржаўнага і грамадскага ладу Беларусі. З'езд быў распушчаны Саўнаркомам Заходняй вобласці за спробу ўзурпацыі дзяржаўнай улады. (Зрэшты, магчымы былі і іншыя, больш гібкія меры барацьбы з гэтым выступленнем).

Выканком савета Беларускага з'езда, лічачы сябе пераемнікам паўнамоцтваў з'езда, пасля таго, як Мінск быў пакінуты савецкімі ўладамі ў сувязі з нямецкім нашэсцем, арганізаваў так званы Народны сакратарыят Беларусі — нешта накшталт часовага ўрада, а 9 сакавіка 1918 года ва ўмовах акупацыі «абвясціў» Беларускую народную рэспубліку (БНР). Сам выканком з гэтага часу стаў называцца Радай БНР, гэта значыць вярхоўным дзяржаўным органам. На справе ж ніякіх уладных дзяржаўных функцый ні Рада, ні Народны сакратарыят не мелі. Кайзераўская Германія адмовілася прызнаць гэты «ўрад» нават намінальна. Але ў любым выпадку гэта была арганізацыйная структура, вакол якой групаваліся партыі і арганізацыі, якія спадзяваліся пры спрыяльным сцэчэнні акалічнасцей стварыць беларускую дзяржаву на выгаднай ім сацыяльнай аснове.

Але вось на павароце падзей восені 1918 года наступіў крах нямецкай акупацыі. У Рады БНР з яе ўрадам (які цяпер называўся Саветам міністраў) з'явіўся канкурэнт, які афіцыйна называў сябе Выканаўчым камітэтам савета органаў земскага і гарадскога самакіравання, сацыялістычных партый і прафесіянальных арганізацый Беларускага краю, ён рашуча адхіляў правы Рады БНР, якая дыскрэдытавала сябе ва ўмовах нямецкай акупацыі, прадстаўляць беларускі народ. Але ў хуткім часе Савету міністраў і членам рады давялося ўцякаць на захад. Да Мінска набліжалася Чырвоная Армія. Распаўся і эсэраўскі Выканком савета дэмакратычных арганізацый.

З захопам польскімі войскамі Мінска ў процівагу ўраду БНР, які асеў у Коўне, узнік новы «нацыянальны цэнтр» — прапольскі Беларускі нацыянальны камітэт. І [illegible]ў два прэтэндэнты на ўладу на выказванне інтарэсаў беларускага народа. Адрозненне ў знешнепалітычных арыентацыях прывяло да новага арганізацыйнага размежавання ў лагеры беларускіх партый — праціўнікаў Савецкай улады. Барацьба на сесіі Рады БНР у снежні 1919 года закончылася абнаўленнем яе саставу, стварэннем «урада» на чале з эсэрам В. Ластоўскім. Але і ранейшы «ўрад» сацыял-дэмакрата А. Луцкевіча не здаў свае паўнамоцтвы. Яго прызнала арганізаваная ў Мінску пад эгідай акупантаў так званая Найвышэйшая рада. Спробы беларускіх эсэраў захаваць адзіны нацыянальна-палітычны цэнтр у асобе Рады БНР на падставе прынцыпаў, абвешчаных у Грамаце аб незалежнасці Беларусі ад 25 сакавіка 1918 года (гэта новая грамата аб'явіла і аб разрыве дзяржаўных сувязей Беларусі і Расіі), аказаліся беспаспяховымі.

Такім чынам, адны арганізацыі спадзяваліся на добрыя адносіны да іх польскіх кіруючых колаў; другія, бачачы поўную залежнасць Польшчы ад заходніх апекуноў, яе эканамічную слабасць і палітычнае становішча, якое абвастралася ў краіне, супраціўленне, якое ўзмацнялася, працоўных Беларусі акупацыі, трымалі курс непасрэдна на Антанту. Разлічвалі, што ход падзей, супярэчнасці ў асяроддзі вялікіх дзяржаў могуць стварыць становішча, спрыяльнае для ажыццяўлення планаў «беларускага адраджэння». Натхнялі і прыклады. Англія, Францыя, ЗША, Германія рабілі энергічныя крокі, каб захаваць старыя парадкі ў Прыбалтыцы, зберагчы там ад краху бездапаможныя буржуазныя ўрады Літвы, Латвіі, Эстоніі. Дык чаму ж заходнім дзяржавам, рабілі вывад дзеячы БНР, не распаўсюдзіць гэтую палітыку і на Беларусь? Пры гэтым магчымы былі і розныя камбінацыі, у тым ліку і аб'яднанне Польшчы, Літвы і Беларусі ў федэрацыю. У падзяку, стаўшы самастойнай дзяржаўнай адзінкай, Беларусь будзе надзейным аплотам у барацьбе з бальшавізмам.

Што ж рабілі на міжнароднай арэне арганізацыі, якія разлічвалі на Антанту?*

* Аб прапольскай арыентацыі гл. «Г. Р.», 1988, № 14, 15.

У студзені 1919 года, калі ўжо была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, а Чырвоная Армія паспяхова працягвала свой рух на захад, вызваляючы ад нямецкай акупацыі новыя тэрыторыі, Савет міністраў БНР звярнуўся да ЗША, Англіі, Францыі і Італіі з заявай «прыняць пад сваю ахову ад разарвання суседзямі тэрыторыі Беларускай народнай рэспублікі».

Але адказу не было. Дзеячы Рады былі перакананы, што адна з прычын халодных, на іх думку, адносін краін Антанты да «беларускага пытання» заключаецца ў крайне слабай інфармаванасці іх аб становішчы спраў у Беларусі, у той час як польскія шавіністы па розных каналах забяспечваюць сваіх апекуноў ілжывай інфармацыяй аб «беларускім руху». У выніку Францыя, Англія, ЗША ў далёка не поўнай меры ўлічваюць ролю, якую магла б адыграць дзяржаўна самастойная Беларусь у рэалізацыі планаў пасляваеннага ўрэгулявання і «ўзнаўлення парадку ў Расіі».

Ставіцца мэта пераканаць заходнія дзяржавы, што падтрымка імі экспансіяніцкай палітыкі Польшчы ў адносінах да беларускіх зямель глыбока памылковая. Лепшае рашэнне — гэта стварэнне насуперак яе процід[illegible]чнію беларускай дзярж[illegible] якая стане верным фарпостам у барацьбе з бальшавікамі.

Беларускія палітыкі, якія знайшлі прытулак у Коўне, выступаюць у ролі выкрывальнікаў злачынстваў польскіх акупантаў [illegible] беларускай зямлі. У 1919 г[illegible] ў Гродне выходзіць кніга аднаго з актыўных дзеячаў БНР К. Езавітава «Беларусы і палякі. Дакументы і факты з гісторыі акупацыі Беларусі палякамі ў 1918 і 1919 гадах». Мэта выдання, як гаворыцца ў прадмове, «раскрыць перад вачамі ўсіх суседзяў Польшчы і яе высокіх заступнікаў увесь жах польскага дэспатызму і прымусіць іх, нарэшце, пачуць стогны беларускага народа, які пакутуе». Публікацыя павінна была адыгрываць ролю амаль афіцыйнага дакумента. У прадмове нагадвалася, што кніга выдадзена на беларускай, рускай, украінскай, літоўскай, французскай, нямецкай і яўрэйскай мовах.

У кнізе змяшчаўся шырокі пералік фактаў аб бясчынствах польскіх атрадаў у Беларусі. Праўда, не ўпамінаюцца забойствы, катаванні савецкіх актывістаў, прыхільнікаў Саветаў. Гэтыя дзеянні, трэба думаць, адабраліся. Дзеячаў БНР асабліва гнявіла тое, што польскія ўлады разганялі валасныя і павятовыя беларускія рады і падвяргалі рэпрэсіям іх кіраўнікоў.

Пералічаныя факты, заяўляў К. Езавітаў, «не вычэрпваюць і сотай долі тых насілляў, якія палякамі былі ўчынены». Ды і ў гістарычным мінулым «у Рэчы Паспалітай беларусы былі прыгнятаемым народам». Таму распад Рэчы «даў першы штуршок нацыянальнаму адраджэнню беларусаў».

І ў далейшым Рада БНР выкарыстоўвае факты аб становішчы ў польскім тыле, каб зрабіць уплыў на палітыку Антанты. У так званай ноце-пратэсце «міністра» замежных спраў БНР К. Ладнова Парыжскай мірнай канферэнцыі ў сакавіку 1920 года даволі рэальна паказана становішча ў акупіраванай Беларусі.

Выкрываючы «польскія жорсткасці», Рада БНР менш за ўсё непакоілася пра жыхароў Беларусі, якія трапілі ў бяду. Галоўная мэта заключалася ў тым, каб звярнуць увагу Антанты на нетрываласць тылу польскіх войск, якія рыхтаваліся да шырокамаштабнай ваеннай аперацыі супраць савецкіх рэспублік. Радаўцы сцвярджалі, што анексія Беларусі Польшчай, войскі якой чыняць усякія насіллі на захопленай беларускай тэрыторыі, выкліча ўсенароднае супраціўленне захопнікам і, у сваю чаргу, узмоцніць сімпатыі беларускага насельніцтва да бальшавікоў.

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ,**
**доктар юрыдычных навук,**
**прафесар.**

**(Заканчэнне будзе).**

# ХТО КЛАПОЦІЦЦА ПРА СТАРОГА



**Сёння ў нашай краіне звыш 56 мільёнаў чалавек пенсійнага ўзросту. Дзяржава многае робіць, каб старасць для такіх людзей была, калі ўжо не ў радасць, то хаця б не ў цяжар: павышаюцца пенсіі, будуюцца дамы-інтэрнаты, дзе састарэлыя жывуць на поўным дзяржаўным забеспячэнні, спецыяльныя лячэбніцы, многае іншае. Аднак казаць, што ў нас створаны ідэальныя ўмовы для пенсіянераў, пакуль нельга. Возьмем сельскую мясцовасць. Тут праблемы пажылых людзей стаяць часам аж надта востра. Асабліва вясной ці восенню, калі патрэбна пасадзіць агарод альбо сабраць вырашчаны ўраджай, нарыхтаваць кармы для свойскай жывёлы, завезці дровы на зіму. Мяркуем, што гэтыя праблемы ў многім удалося вырашыць у калгасе «Праўда» Слуцкага раёна. Тут жыве 120 пенсіянераў. Для іх усе паслугі выконваюцца за кошт калгаса. Для гэтага створана спецыяльная служба — камунгас. Ён бярэ ўсе клопаты на сябе: адрамантуе дом, паправіць загародку, апрацуе прысядзібны ўчастак, нарыхтуе паліва. Дзякуючы гэтаму, многія пенсіянеры і састарэлыя яшчэ паспяхова вядуць асабістую падсобную гаспадарку. А лішкі прадукцыі прадаюць дзяржаве.**





**НА ЗДЫМКАХ: кіраўніку камунгаса Л. САМУСЕВІЧ (злева) пра свае клопаты гаворыць пенсіянерка А. АЛЕШКА; малаказборшчыца І. КАНАПЛЯНІК прымае лішкі малака ў пенсіянеркі Т. ШАЛЯГОВІЧ; апрацаваць прысядзібны ўчастак аднавяскоўцам заўсёды дапаможа В. АЛЕШКА з сынам Генадзем.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**

# But We Are One Family

Everyone feels that after three years of perestroika there ought to be some change. People want to savour its fruits — in their place of work, in daily life and in daily cares. So far the encouraging results of renewal are more felt by those who are the most active in perestroika. With each of their muscles they feel that the Party Conference has reaffirmed and strengthened their positions and their right to continue to deepen glasnost, promote the cooperative movement and carry on the search for new forms of economic management.

But these days many people have met the General Secretary of the CPSU Central Committee at Siberian plants and construction projects with these words: "Nothing is being changed — neither in the shops nor in the social sphere".

And what about the "deceleration forces", both local and not quite? Are they trembling with horror? Somehow that is not visible. They've got used to it. They are just touching their "collective armchair": "Do we sit firmly?" Yes, they are still sitting firmly.

They know us perfectly well. They ought to: they have spent so many years and so much effort to mould our mentality, to make it what it now is and no different. Have you noticed who it is that we complain against or are angry with most of all? Not so much those who hamper us from doing the job as those who started the job and are doing it, but — as it seems to us — not vigorously enough and with insufficient results.

There have already been attempts to arose discontent against the press and glasnost. That is, against those who break through the habitual barriers, beyond the walls of previous bans and interdictions ("The people are tired of reading and hearing about shortcomings!"). But the story with limited subscriptions to newspapers and magazines and the truly nationwide protest against the encroachment on information — this referendum unwittingly provoked by the bureaucracy — have shown: no, the relations between the population and the workers of glasnost are excellent.

We know perfectly well ourselves how very easily we get excited at the sight of the earnings of cooperative members, lease-holders and farmers. Here there is not even any need to incite us. This has been rammed firmly into us.

So that the "knights of deceleration" should not have such a powerful reserve — our surprising aptitude for blaming others for our own inaction — every effort should be bent to ensuring that from a plaintiff you turn into a doer and participant. There are more than enough forms and ways to this and for this today. In Estonia there is the form of a broad Popular Front in support of perestroika. The public gets directly involved in the affairs of the Central Committee and the leadership of the Republic — there are now considerably fewer habitual bureaucratic barriers. Without this it would be inconceivable to speak about the economy paying its way on a profit-and-loss basis on the scale of the entire Republic. This combination of democratic and national interests works for economic activity and hence for perestroika.

Only yesterday everyone used to look solely at the centre: how was Moscow faring, what was perestroika doing? Today one might as well cast glances also at such "backwoods" and look for answers there to some problems, try and find ways out of our common impasses.

For instance, we could answer the question as to how best to mobilize the intellectual forces for the main cause instead of trying, to quote Lev Annensky, "to get at each other's ugly mug". But haven't we been carried away by this to such an extent that we were even prepared to trample perestroika underfoot? Some said: "Bend every effort to reanimate national culture! Whoever is not with us is our enemy?" Others: "All forces for democratization, for the creation of a state committed to the rule of law! Shame to those who are not on our side!"

But both the former and the latter (if we take the finest, the fairest) want to do a real job. And both tasks are inseverable. It is, after all, inconceivable to revive, restore national self-respect in a state not committed to the rule of law. But on the other hand: how are we going to assert democracy or build a law-abiding state, if the flower of the intelligentsia is excommunicated from this effort? For example, such famous writers, as Astafyev, Rasputin or Belov? Or Granin, Dudintsev, Voznesensky, Rybakov?

And yet month after month newspaper and magazine articles brought both to an artificial "free-for-all" or involve them in games like a tug of war.

Who needs this, who benefits by this? Exactly — God alone knows. Perhaps only those who don't care a fig for either democracy or true national culture, but dream of a return to Stalin's imperial "muscles" and "will for power".

In this "survival of the fittest" I see attempts — I don't dare judge how well realized — to split the front of perestroika supporters, using as an axe such a dependable instrument of renewal as that socialist pluralism acquired by us over the past few years. This is a phenomenon not without real reasons, but a dangerous one. Especially when a division is proposed on the principle: "Those who are for democratization and the assertion of a law-abiding state — left turn, those who are for the revival of national identity — right turn." I am convinced: unless both social movements — democratic-legal consciousness and national-rehabilitatory consciousness — find ways towards each other in the "centre", as is already happening in some Republics, perestroika will feel pressure and be in danger. And the healthy processes in the Republics, which everyone needs, will likewise come under constant threat. Nothing can be resolved in real earnest or for long without a "will for democracy" and a striving for a law-abiding state on the part of millions-strong Russian population.

It means the need to shake off the influence or even dominance of the dishonest and selfish "extreme left" and "extreme right", who are sometimes simply blinded by the insults they inflict upon each other. And from everyone who knows, respects and values society the only thing that would be desirable is not to give either their own or anyone else's name to the "extermists". Any authority is neither boundless nor inexhaustible. The waste of authority by the socially significant, important personality, when it is given to dishonest people with "extreme" ends, is a great loss for society, for perestroika. And even if such a person by some of his or her peripheral thoughts or acts commits something extraordinary from the standpoint of others, something possibly running counter at first glance to the goals of perestroika, what should be done is not to gloat over this (look how they have again disgraced their names!), but to try and find ways out of this situation in the interest of perestroika. Even without us it has enough adversaries.

There should be less blind heat in the contest of ambitions and partialities. And there is a need to take a closer look: don't the "democrats" possess the second, control key to the solution of national problems? (Without which the mechanism does not switch on, as in some cybernetic systems.) And on the other hand, to estimate: don't they, the honest sufferers for the national traditions, humiliated and routed by Stalinists, also have the "second key" without which democracy does not switch on either? Indeed, how, for example, can it be switched on to full power by Estonians, Ukrainians, Byelorussians or other nations if the Russian middle part of the country is emaciated by this disunity between the democratic-legal and the national-rehabilitatory trends? Such being the case, the "backwoods", too, feeling the instability of their proclivities unsupported by Russian accord, will also slide (which, regrettably, happens occasionally) towards "extreme" ideas and goals.

Only having found each other can we gain what each of us has been looking for single-handedly, but what we lose in common, we lose together.

This has already happened in Russia and with Russia.

"And why did we argue when it was necessary to do real work? We talk too much, use too many phrases, waggle our tongues from laziness, vent our anger, accumulated not from ourselves, and pour it on each other, try to boost our egos, use the common weal for our sole benefit, and tease one another."

This is Fyodor Dostoyevsky.

Isn't it time at last to hear the voice of history and calm our anger? We need to be careful that our boxing doesn't cause us to lose our main goal — perestroika, our common chance.

**Ales ADAMOVICH.**

# TO UNDERSTAND ONE ANOTHER

**"Although different, Orthodox and the Catholic churches exist side by side. That is why we have sought and found a common language. It is a language of mutual understanding and the aspiration to do good, to meet human wants and needs and to help implement them," said Cardinal Józef Glemp, Primate of Poland, who recently visited Byelorussia. The Roman Catholic Cardinal was speaking about the interaction between the Roman Catholic and Russian Orthodox churches.**

The road we travelled to Grodno took us past local villages filled with people bearing flowers who wanted to see the Cardinal. Parishioners from Grodno's three city cathedrals welcomed Gardinal Glemp with bread and salt. The clergy and parishioners of the Orthodox Cathedral of the Intercession of the Virgin, welcomed the Polish guest with joy. Filaret, Metropolitan of Minsk and Byelorussia, when greeting the Primate of Poland, expressed hope that the Roman Catholic and the Russian Orthodox churches would be at one in their main aspirations — for good, for love among people, and for peace on Earth.

Cardinal Glemp's sermons, delivered in cathedrals in Lida, Novogrudok, Nesvizh and other Byelorussian cities, spoke of the need for joint activities between Catholic and Orthodox churches in order to achieve the aforementioned goals. His sermon in the Farno Cathedral, where he said a mass on the first day of his arrival, returned all those present to the difficult and sometimes even tragic times dating as far back as the Crusades. The Cardinal's itinerary in Byelorussia was packed. He visited seven cities and said masses in many cathedrals. He visited museums and historic places. Everywhere we went, laying flowers by graves and monuments, he paid his respects to soldiers killed during World War II. The Primate of Poland had an opportunity to meet with representatives of state and public organizations.

Answering our question of his impressions after the visit, the Cardinal said:

"This is my first visit to Byelorussia but not my first to the USSR. I thought I'd meet only with small groups of believers — Catholic Poles. But Soviet authorities also officially received me. I was shown lavish hospitality and I felt the openness of people and also expressions of sincerity from people at the cathedrals."

Speaking about Byelorussians' goodwill and hospitality, the Primate noted that the Poles, living in Byelorussia, refer to it as their own country, i. e., as he said, they "feel good here". He said that the people who now are responsible for the situation in the society in the USSR are doing very much, thinking about the future and exerting every effort to substantiate this future based on values raised by perestroika. The Cardinal said that the Russian Orthodox Church is very active in this.

**Natalya BULDYK.**

# Car and Man: Coexistence is possible

**The dangerous growth of concentrations of exhaust fumes in the urban atmosphere as a result of an increase in the number of motor vehicles can be halted without delay.**

"The first to revolt against exhaust fumes were the architects. They have designed the layout of the city's new streets in may making possible their maximum aeration. And we also had to change the layout of many old streets," Gennady Senkevich, Deputy Chairman of the Minsk City Soviet, said. "Much money is spent on the construction of road intersections which facilitate the flow of traffic and also appreciably reduce idling time thus bringing down the concentration of exhaust fumes at busy crossings. Today drivers are used to electronic signs recommending definite speeds in heavily used streets. This is the so-called green wave. It is a computer-controlled system of traffic which reduces the number of times vehicles stop. Other factors contributing to air purity are such major programmes as the construction of the first stage of an underground and a new circular motor road."

The city planners and architects are not alone in their struggle for pure air. The author of this article has himself experienced the strictness of the control over the technical condition of cars. When leaving the city, I was stopped by a traffic inspector. Using a portable instrument he measured the carbon monoxide content of the exhaust fumes. Traffic inspectors have the right to forbid driving motor vehicles whose engines are not properly adjusted. A "pure air" operation which lasted a month, involved checking almost all motor vehicles in the city. Such sweeping checkups are carried out regularly.

"We believe putting all motor vehicles in the city on gas is the most promising." Gennady Senkevich said. "This will cut the toxicity of exhaust fumes by almost a third. Several gas stations have been built in Minsk and new ones are bieng planned.

"Increasing attention to ecological problems is now one of the basic principles of social policy. The City Soviet adopted a plan of measures for the next five years which, when implemented, will help stabilize the situation and gradually improve it."

**Vyacheslav KHODOSOVSKY**

### THE AUROCHS ARE MOVED TO A NEW SITE

Five aurochs have been transported from the Belovezhskaya Puscha reserve to the Pripyat landscape and hydrological reserve. This is already the fourth zone in Byelorussia where these huge animals, included in the International Red Data Book and the Red Data Books of the USSR and the BSSR, can be found.

Somewhat earlier, groups of these animals were resettled in the Nalibokskaya Puscha and the Berezina reserve where they have adapted well and bear offspring. The aurochs from the Belovezhskaya Puscha reserve have also been transferred to the woodlands along the Oka river, to the Caucasus, and some other places. These animals are no longer threatened with extinction. In the Belovezhskaya Puscha alone, which is now an international centre for restoring the population of rare animals of the preglacial period, there are over 200 aurochs today.

Editor of the "English Page" G. FOMENKO.

Сяргей ГРАХОЎСКІ

***

Мне семдзесят пяць.
А, здаецца, учора
Мне людзі прысвоілі
Званне селькора.

Я ў вецер і стынь
Прабіваўся па снезе,
Каб лямпу хутчэй
Засвяціць у лікбезе.

Да поўначы там
Засядалі камбеды,
І «мы — не рабы»
Паўтаралі кабеты.

А потым у Мінску
На беразе рэчкі
Вясной бушавалі
Студэнцкія спрэчкі.

Мы вершы чыталі
З агульнае згоды,
І пільна за намі
Сачылі сексоты,

Каб нас паздаваць
У калматыя лапы,
Што рукі круцілі,
Што гналі ў этапы.

Я верыў, што будзе
Нявечнай нягода.
Што праўду нарэшце
Здабудуць народы.

Дажыў, дачакаўся
Жаданае волі,
Каб гора не ведаў
Ніхто і ніколі.

Мае жураўлі
Узнімаюцца клінам,
А я іх прашу:
«Пачакайце хвіліну».

## ЛЮБІМАЯ І РОДНАЯ

Дзве родныя мовы, як два
ручаі.
Зліліся і сталі крыніцай
жывою.
Мне курскія ў Глуску
пяюць салаўі,
І кружацца нашы буслы
над Нявою.

Я з першага класа
ўсё разумеў:
«Плакала Саша,
как лес вырубали...»
Пад гукі цымбалаў
ад шчасця нямеў,
Калі за ракой датлявала
купалле.

Купала і Колас адкрылі
мне зрок,
Душу зачароўвалі матчыны
песні,
А пушкінскі вечна крылаты
«Пророк»
І ў познюю восень
прыносіць прадвесне.

Я ў ленінскім слове
знаходжу заўжды
Падтрымку, адказ і параду,
І мне, як і ў даўнія тыя гады,
Не трэба зусім перакладу.

Заўсёды адданы
праўдзіваму слову,
Я сэрцам знаёмыя гукі
лаўлю,—
Люблю неўміручую
рускую мову
І роднае слова, як маці,
люблю

***

Знікалі з крыкам
лебедзі ў тумане,
З настылых мальваў
асыпаўся цвет.
Ніхто не ведаў,
што ў такое ранне
З'явіўся я на белы свет.

І вось ужо канчаецца дарога,
Сплылі, як здані, і мае гады:
За што ні браўся —
не паспеў нічога,
І знікну непрыкметна
назаўжды.

## ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І ПЕРАБУДОВА

# КАЛІ ЦВІТУЦЬ ВЕРАСЫ

**З ВЯДОМЫМ БЕЛАРУСКІМ ПІСЬМЕННІКАМ СЯРГЕЕМ ГРАХОЎСКІМ, ЯКОМУ Ў ВЕРАСНІ СПОЎНІЛАСЯ 75 ГАДОЎ, МЫ СУСТРЭЛІСЯ НАПЯРЭДАДНІ ЯГО ЮБІЛЕЮ Ў КАМІННАЙ ЗАЛЕ ДОМА ТВОРЧАСЦІ «ІСЛАЧ».**

**— Сяргей Іванавіч, як вам жывецца тут, як працуецца? Ведаю, што даволі часта прыязджаеце ў гэта прыгожае месца.**

— Я якраз адкрываў гэты дом. І былі мы ў першым заездзе: Янка Скрыган, Нічыпар Пашкевіч, Павел Кавалёў. Яны якраз і цяпер тут. Пэўна ж, не аднаму мне падабаецца ў «Іслачы». Таму што для працы гэта вельмі ўтульны, вельмі зручны куток. Па-першае, гэта блізка ад горада, па-другое, цудоўная прырода. Стройныя карабельныя сосны, проста шышкінскія карціны. Прыгожая рэчка Іслач, хаця яна і малаводная. А некалі, відаць, была вельмі шырокая. Нядаўна яшчэ ўздоўж Іслачы звінелі косы, грэблі сена, складвалі ў копы. І я часам таксама браў касу і ўспамінаў сваё маленства, сваё юнацтва. Цяпер восень, верасень. Самая любімая пара, калі цвітуць верасы.

**Ліловым дымам сцелюцца**
**па ўзгорках**
**І шапацяць таемна верасы,**
**Мільгаюць у арэшніку**
**вавёркі,**
**На дол сцякаюць кропелькі**
**расы.**

. . . . . . .

**Далёкі пах бярозавага дыму**
**І развітальны голас жураво**ў
**Мяне заўсёды клічуць**
**на радзіму**
**І я спяшаюся дамоў.**

Як вы ведаеце, я ў асноўным усё жыццё пісаў вершы, хаця ёсць і празаічныя кнігі, і публіцыстычныя, і мемуарнага характару. І мне здавалася, што пісаць вершы ў маім пачэсным узросце, напэўна, марная трата часу. Паэзія ж удзел маладых. Але кожны раз зноў і зноў раптам праразаюцца вершы. Сама прырода тут неяк уваходзіць у паэзію, натхняе на паэзію. І яшчэ наша сённяшняе жыццё, таму што яно цяпер надзвычай цікавае, бурнае і шчаслівае. Шчаслівае не таму, што ў нас гнуцца прылаўкі, а таму, што мы адчулі свабоду. Можам гаварыць тое, што думаем, што нас хвалюе. Каб як найхутчэй зрабіць усё ў нашай краіне, каб дзецям і ўнукам шчасліва жылося. І вось і працую я цяпер, і пішу гэтыя рэчы—і вершаваныя, і празаічныя—у імя вось гэтай нашай перабудовы.

Я шчаслівы бываю толькі тады, калі я чалавеку зрабіў хоць невялічкае дабро, паказаў дарогу, падказаў, куды яму звярнуцца за дапамогай. Гэтым я жыву.

**—Сёлетні год быў для вас вельмі плённым. Выйшла адразу тры кніжкі, у часопісе «Полымя» друкуюцца ўспаміны. Мне найбольш спадабалася, кранула кніжка «І радасць і боль». Гэта як у жыцці: радасць і боль побач. І калі боль не перабівае радасць, не забівае чалавека, не робіць яго халодным і чэрствым, гэта вялікае шчасце. У гэтай кніжцы вельмі розныя творы, лірычныя цёплыя і грамадзянскія, прасякнутыя клопатам і непакоем за наш сённяшні дзень, за ўсё добрае і дрэннае, што ў нас ёсць. І таму, мне здаецца, гэта кніжка вельмі важная для вас. Як вы ацэньваеце яе самі?**

— З многіх маіх кніг (а я вам па сакрэту скажу, што ў мяне, калі лічыць і з перакладнымі выданнямі, выйшла недзе каля 47 кніжак) гэта самая маленькая кніжачка, але для мяне самая дарагая. Чаму? Таму што тут я меў магчымасць сказаць тое, што балела, што я перажыў, што мяне радавала. Хоць не ў поўнай меры, але тое, што мне прадыктавала маё сумленне. А яшчэ гэту кніжку я лічу самай дарагой таму, што тут укладзена частка майго жыцця, частка жыцця майго пакалення.

**— Вы сказалі: выйшла 47 кніжак. З чаго яны пачыналіся? З чаго пачыналіся вы як паэт?**

— Я пачынаў вельмі рана. Гэта быў час такога ўздыму беларускай культуры. Быў высокі ўздым самасвядомасці, нацыянальнага гонару, нацыянальнай годнасці беларусаў. Вялікі Кастрычнік адкрыў беларускаму народу шырокія магчымасці да навукі, да мастацтва, да літаратуры. У «Маладняку» налічвалася больш за 500 пачынаючых пісьменнікаў. І, бясспрэчна, пад тым уплывам літаральна ўсе браліся пісаць вершы. Я не помню ў сваёй школе ніводнага чалавека, які б не спрабаваў пісаць. І я, відаць, быў самы актыўны. Я арганізаваў выданне рукапіснага літаратурнага часопіса. Прасіў сваіх сяброў, каб яны абавязкова пісалі. Мы былі першымі селькорамі ў Глускім раёне. Да нас прыязджалі прадстаўнікі рэдакцыі, і мы пісалі заметкі пра нашы недахопы, пра нашы здабыткі. Тады я пачаў пісаць. Першы мой верш быў надрукаваны ў 1926 годзе, калі мне было трынаццаць гадоў. Але я гэта не лічу сваёй творчасцю. Мой чалавечы лёс выстройваўся складана. Я нават да сваіх жыццёвых пакут не паспеў выдаць кніжку, хаця яна была здадзена ў выдавецтва. Сур'ёзная творчая праца пачалася ў мяне пасля 1956 года, калі я паўторна вярнуўся ў Мінск. Але і ў той час, нават пасля XX з'езда, не ўсё ўдавалася сказаць з таго, што мусілі сказаць.

Я напісаў тады дакументальную аповесць «Рудабельская рэспубліка». Яна шырока прайшла ў нас у рэспубліцы, у Маскве выдавалася 100-тысячным тыражом. І разам з тым, хоць я раскрыў адну з маладомых тады старонак нашай гісторыі, я не змог сказаць поўную праўду пра лёс сваіх герояў. Напрыклад, самы бліжэйшы паплечнік Аляксандра Салаўя, стваральніка Рудабельскай рэспублікі, Максім Ляўко загінуў у 37-м годзе, стаў ахвярай тых рэпрэсій, якія скаланулі нашу Беларусь, падсеклі таленавітыя і партыйныя кадры, і інтэлігенцыю творчую і навуковую. Гэтае кола захапіла і мяне.

**— Вы многа перажылі і ўсё ж захавалі ў сэрцы любоў да людзей, міласэрнасць, спагаду. Як вам гэта ўдалося? У вашых празаічных творах, такіх, напрыклад, як аповесць «А маці не спіць», ёсць выраз: перабудова душы, перабудова свядомасці. Я так разумею, што вы лічыце: перабудова ў грамадстве павінна пачынацца з чалавека?**

— Усё вырашае сумленнасць чалавека. Сумленны чалавек аддае ўсе свае здольнасці, усе свае сілы на агульную справу, на будаўніцтва сацыялістычнага грамадства. Варта, нарэшце, адказаць, што такое сацыялістычнае грамадства. Мы ўжо чулі, што наша пакаленне будзе жыць пры камунізме, што ў нас развіты сацыялізм. Але нам да гэтага сапраўднага сацыялізму яшчэ далёка, і нават патрэбна перабудоўвацца, каб жыць пры тым сапраўдным сацыялізме, якім яго ўяўлялі Маркс, Энгельс, Ленін. Я думаю, трэба, каб кожны чалавек працаваў так, як ён працуе на сябе. Вы паглядзіце на гэтыя самыя сямейныя падрады: два чалавекі працуюць за цэлую брыгаду, шэсць—за калгас. Канечне, гэтую працу належным чынам трэба і заахвочваць.

**— Я думаю, не менш адказныя праблемы перад намі і ў галіне культуры. Гэта праблема мовы. І праблема нашай гісторыі. Як, на вашу думку, можна паправіць становішча?**

— Калі нам гаварылі, што мы прыйдзем да агульнай мовы, да мовы большасці, то трэба было б вывучаць кітайскую мову, таму што кітайцаў больш за мільярд. Кожная маленькая нацыянальнасць, кожная маленькая народнасць—гэта непаўторная з'ява нашай зямлі. Мы павінны быць народам, а не часельніцтвам. Што ж атрымаецца, калі мы не перададзім нашым нашчадкам водар песень беларускіх або песень узбекскага, татарскага народаў. Культура складвалася на працягу тысячагоддзяў. Як мы можам уявіць сабе агульначалавечую культуру без Шата Руставелі. Без Пушкіна? Тараса Шаўчэнкі?

Расул Гамзатаў, які прадстаўляе маленькую народнасць аварцаў (іх каля 60 тысяч), сказаў: «Иного исцеляет от болезней иной язык, но мне на нем не петь. И если завтра мой язык исчезнет, то я готов сегодня умереть». Мудра сказана.

Кожны народ павінен прынесці ў наша сацыялістычнае, камуністычнае грамадства ўсю вясёлку талентаў, музыкі, песень, паэзіі.

Я дзіўлюся тым бацькам, якія вызваляюць сваіх дзяцей ад вывучэння роднай мовы. Гэта ж збядняе душу дзіцяці на адну мову. Я аб'ехаў амаль усе сацыялістычныя краіны, і беларуская мова была ключом да разумення ўсіх усходнееўрапейскіх моў: і з палякам, і з чэхам, і са славакам.

**— Сяргей Іванавіч, а як жа мы збядняем сваю нацыянальную культуру, калі забываем імёны тых, кім маглі б ганарыцца...**

— Цяпер мы вяртаем у нашу літаратуру, нашу культуру людзей, якія па нейкіх акалічнасцях апынуліся за мяжой. Таго ж Набокава. Вярнулі Буніна, Купрына. Вялікае шчасце, што вярнулі Алеся Гаруна. Шаляпіна прах перавезлі ў Маскву. Мы ж свайго выдатнага салаўя, выдатнага спевака Міхала Забэйду-Суміцкага забылі.

Я быў улюбёны ў гэтага чалавека. Ён быў салістам Ла Скала. А гэта ж мара кожнага спевака. Жывучы ў Празе, Міхал Забэйда атрымліваў прэміі на розных конкурсах. Ён спяваў разам з Леанідам Собінавым. Ён паказваў мне клавір, падораны яму Дзмітрыем Кабалеўскім. Ён быў першым выканаўцам музыкі кампазітара на санеты Шэкспіра. Калі я хадзіў з ім па Празе, з ім віталася ўся Прага, маленькія і старыя. У мяне ёсць здымак: на лацкане яго пінжака сядзіць матыль. Як адзнака істоты, якая адчувае добрага чалавека. Мы гулялі з Забэйдам па парку, і матыль сядзеў столькі, колькі мне спатрэбілася, каб зрабіць дзесятак здымкаў. Мы зайшлі ў невялічкі рэстаранчык. Там было пастаяннае месца артыста, якое ніхто не займаў, апрача яго. Уся Еўропа ведала Забэйду, слухала яго.



Цяпер Забэйда вяртаецца да нас. Увесь архіў яго: пласцінкі, магнітафонныя запісы —вернуты ў Беларусь. Яны знаходзяцца ў нашым музеі-архіве літаратуры і мастацтва.

**— Сяргей Іванавіч, а як вы разумееце ролю пісьменніка ў сённяшніх умовах, у перабудове?**

— Пісьменнік як званар. Ён павінен біць не толькі ва ўрачысты звон. А біць і ў набат. І цяпер многія пісьменнікі не таму, што яны «спісаліся», а таму, што яны нераўнадушныя і заклапочаныя лёсам нашага сацыялістычнага грамадства, сталі публіцыстамі. Вазьміце Алеся Адамовіча. Ён не столькі піша мастацкія творы, колькі выступае як барацьбіт за мір, за наша экалагічнае асяроддзе. Вазьміце таго ж Быкава, таго ж Граніна. Таму што нам баліць. Мы не раўнадушныя. Мы заклікаем.

**— У вас яшчэ, напэўна, многа спраў. І вам трэба яшчэ многа сіл для работы. За што збіраецеся ўзяцца найперш?**

— Мне хочацца яшчэ напісаць дзве кніжкі. Адну— пра стары Мінск, якога ўжо ніхто не памятае і не ведае, а я памятаю ўсе вуліцы, завулачкі. Цяпер няма старога Дома пісьменнікаў. Гэта было суполле ўсіх творчых работнікаў, пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў. Цяпер мы разрозненыя. А тады мы сябравалі. З Заірам Азгурам мы сябры з тых часоў... Вельмі хочацца напісаць такую кніжку. Пісьменнік у сваіх творах павінен быць спавядальным аўтарам, выказаць тое, што ў яго душы, на сэрцы, што ён перажыў, убачыў на свае вочы, тое, што ён адчуў сваім сэрцам. Мая апошняя маленечкая кніжачка «І радасць і боль» дае пра гэта ўяўленне ў нейкай ступені. Нездарма я на вокладцы напісаў:

**«Я перажыў і боль, і страх**
**На сцюжы і сямі вятрах**
**І сам свае загоіў раны,**
**Бо праўдаю загартаваны».**

Гутарку вяла
Дзіяна ЧАРКАСАВА.

*ФІНАНСАВАЕ СТАНОВІШЧА САВЕЦКАГА МАСТАКА*

# ГАСРАЗЛІК ТАЛЕНТУ НЕ ПАГРОЗА

Сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Юрый Верчанка зрабіў ашаламляючую заяву: «Штомесячны літаратурны заработак савецкага пісьменніка складае ў сярэднім 162 рублі. Гэта менш, чым сярэдняя зарплата па краіне».

Паведамленне Ю. Верчанкі, вельмі магчыма, выкліча хвалю спачування ў добрых чытачоў. Асабіста ж мне яно нагадала стары каўказскі анекдот.

Вулічны гандляр прадае мноства катлет з рабчыка. Прыезджы пакупнік здзіўлены: колькі ж патрэбна рабчыкаў, каб зрабіць столькі катлет? Апусціўшы вочы, гандляр тлумачыць: «Палавіна — рабчык, палавіна — ішак».

У Саюзе пісьменнікаў СССР — 10 тысяч членаў. Зусім не выключана, што іх сярэдні літаратурны заработак сапраўды складае 162 рублі. Крыху няясна іншае: чаму за ўсе гэтыя дзесяцігоддзі ні адзін з «бедных» літаратараў не перайшоў на больш высокааплатную работу, скажам, у газету, на радыё, на тэлебачанне. Наадварот, высокааплатныя супрацоўнікі радыё, тэлекаментатары імкнуцца і мараць уступіць у пісьменніцкую арганізацыю. Напэўна, не толькі з-за ўсепаглынальнай любові да літаратуры...

Але вернемся да нашых рабчыкаў. Вось лічбы, здольныя ў нейкай меры высветліць сітуацыю. Толькі з 1980 па 1987 год у пісьменніка Сяргея Міхалкова выйшла 92 выданні, гэта значыць 13—14 выданняў у год. Агульны тыраж іх 39 мільёнаў 695 тысяч экземпляраў. Так што сярэдні заработак Міхалкова ў многа-многа разоў перавышае лічбу, названую Ю. Верчанкам.

Анатоль Іваноў з 1980 па 1987 год публікаваўся 13 разоў агульным тыражом «усяго» 6 мільёнаў 460 тысяч экземпляраў. Пётр Праскурын — 16 разоў тыражом 9 мільёнаў 800 тысяч.

Не трэба, думаецца, нікога пераконваць, што бязбедна жывуць Яўгеній Еўтушэнка, Андрэй Вазнясенскі, Валянцін Пікуль, Віктар Астаф'еў, Васіль Быкаў, Валянцін Распуцін, Чынгіз Айтматаў, Юліян Сямёнаў і многія іншыя — тыя, чые кнігі чытаюць і хочуць чытаць. Тады адкуль жа сумная лічба — 162 рублі?

Па-першае, трэба ўлічыць, што ў Саюзе пісьменнікаў (як і ў іншых саюзах) нямала «генералаў ад мастацтва». Яны ўступілі ў Саюз, карыстаючыся сваім высокім грамадскім становішчам, і, натуральна, амаль нічога і ніколі не пісалі — толькі кіравалі.

Па-другое, трэба прыняць да ўвагі шматлікую групу літаратараў, якія даўно спісаліся: стары ўзрост, хваробы не дазваляюць гэтым людзям удзяляць увагу творчасці.

І, нарэшце, прадстаўнікі «шэрай літаратуры». Сёння ім крыху горш, чым учора. Усё радзей могуць яны пераадолець нават зусім пакуль яшчэ невысокую планку выдавецкіх патрабаванняў.

Такім чынам, ганарар за літаратуру, якая выдаецца, дзеліцца на колькасць членаў Саюза — пішучых і няпішучых — і атрымліваецца лічба 162 рублі.

У Саюзе пісьменнікаў СССР, як ужо гаварылася, 10 тысяч чалавек. У Саюзе мастакоў — 21 тысяча. Існуе меркаванне, што гэта вельмі мала для такой вялікай краіны, як СССР. Напрыклад, у маленькай Даніі пісьменнікаў больш. Пры гэтым не ўлічваюць, што амаль ва ўсіх дзяржавах, якія ажыццяўляюць частковую апеку ці ўвогуле не гарантуюць арганізаванага забеспячэння мастакоў работай, мастаком лічыцца ўсякі, хто атрымаў адпаведную адукацыю ці проста аб'явіў сябе такім.

У СССР жа прафесіянальным пісьменнікам, жывапісцам, кампазітарам лічыцца афіцыйна толькі член творчага саюза.

Творчыя саюзы прадастаўляюць сваім членам значныя даброты. Бясплатныя камандзіроўкі, магчымасць выдавацца ці выстаўляцца. Жыць і працаваць на ўсім гатовым за кошт Саюза ў Дамах творчасці і многае іншае, не гаворачы ўжо аб прэстыжы. Вось просты канкрэтны прыклад. Празаіку з пасведчаннем Саюза пісьменнікаў СССР у выдавецтве плацяць за друкаваны аркуш 300 рублёў і дадаткова тыражныя. Празаіку, які не значыцца ў Саюзе пісьменнікаў,— толькі 175 рублёў і без тыражных. Узровень майстэрства ролі не адыгрывае.

Самы вопытны замежны бізнесмен далёка не адразу разбярэцца ў сістэме творчых саюзаў, дзейнасці савецкіх выдавецтваў і іншых культурных арганізацый. Любому недасведчанаму чалавеку цяжка зразумець, чаму патрэбныя чытачу кнігі не выдаюцца ці выдаюцца мізэрнымі тыражамі, а літаратура, нікому не патрэбная, якая не карыстаецца попытам, выдаецца мільённымі.

Не менш дзіўна і тое, што аўтар атрымлівае поўны ганарар за кнігу, тыраж якой не разышоўся. Таксама нелагічна, што персанальная мастацкая выстаўка пра[illegible]ваецца роўна тры тыдні, нават ка[illegible] не наведае ні адзін глядач. На [illegible]астаку гэта не адбіваецца — яго карціны ўсё роўна набудзе Саюз, а потым схавае ў сваіх запасніках.

Сёння вельмі сур'ёзна стаіць пытанне аб карэнным змяненні работы творчых саюзаў, [illegible]омцы аджыўшых структур. Сэнс [illegible] пераўтварэнняў можна выказац[illegible] [illegible]ак: пісьменнікам мае права называцца толькі прафесіянал, творы якога чытаюць; мастаком — сапраўдны майстар, карціны якога выклікаюць цікавасць, прыцягваюць увагу. Увядзенне гасразліку ў выдавецтвах, у выставачных залах, тэатры, кіно дапаможа аддзяліць зерне ад пустазелля, пазбавіцца ад баласту.

Што ж станецца з тымі, хто атрымлівае так званыя 162 рублі? Відаць, тое ж, што і з непадрыхтаванымі работнікамі ў іншых сферах дзейнасці. Яны зоймуцца другой грамадска карыснай працай, у якой прынясуць больш карысці і сабе, і грамадству. Не трэба быць «добранькімі» за кошт чытачоў і гледачоў, пладзіць утрыманцаў.

Але, пярэчаць «пакрыўджаныя» і іх апекуны, чытач жа і глядач далёка не заўсёды падрыхтаваны эстэтычна. Як можна цалкам разлічваць толькі на яго неспрактыкаваны густ?

Характэрна, што яшчэ некалькі гадоў назад тыя ж людзі сцвярджалі: галоўны знаток мастацтва — народ. Сёння ж, калі народ пачынае выказваць сваю думку, яму адмаўляюць у давер'і.

Некалі творы Льва Талстога выдаваліся тыражом 3 тысячы экземпляраў і тыраж цалкам не раскупляўся. Такім жа тыражом, толькі пазней, публікаваліся вершы Марыны Цвятаевай. Разам з ёю друкаваліся такія ж, як і яна, нікому не вядомыя тады паэты. Талстой і Цвятаева вытрымалі выпрабаванне часам. Народ не памыліўся, выбраўшы менавіта іх з соцень іншых літаратараў, прызнаўшы іх дастойнымі сваёй увагі. Так што не давяраць грамадскасці і гісторыі не варта. У выніку, гасразлік таленту зусім не пагражае. Ён небяспечны ў першую чаргу для бясталентнай шэрасці.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

**P. S. Нядаўна Савет Міністраў прыняў пастанову «Аб упарадкаванні ставак аўтарскага ўзнагароджання за выданне, публічнае выкананне і іншыя віды выкарыстання твораў літаратуры і мастацтва». Думаецца, што пастанова стане новым стымулам для творчай работы мастака, таму што стварае яшчэ больш спрыяльныя матэрыяльныя ўмовы для яго працы. Натуральна, маецца на ўвазе сапраўдны мастак, бяздарнасці пастанова не дапаможа.**





**У галоўным кнігасховішчы рэспублікі — Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна — Міжведамасная камісія, якую ўзначальвае намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення па ахове дзяржаўных тайн у друку пры Савеце Міністраў БССР Марыя Высоцкая, заканчвае работу па перадачы кніг са спецыяльных фондаў у агульныя. Яны папоўняцца васьмю тысячамі экземпляраў друкаваных выданняў, якія раней былі недаступныя масаваму чытачу. Агульнадаступнымі стануць і 196 назваў кніг беларускіх выданняў 20-х, 30-х, 40-х гадоў. НА ЗДЫМКАХ: працуюць члены Міжведамаснай камісіі; з літаратурай па музыцы, вернутай са спецфондаў, знаёміцца дацэнт кафедры хар[illegible]а дырыжыравання Мінскага інстыт[illegible] культуры Мікалай РАХЧЭЕЎ; выданні беларускіх кніг, вернутыя са спецфондаў у агульныя.**

**Фота В. АЛЯ[illegible]КЕВІЧА.**




# ЛІТАРАТАРЫ З КІТАЯ

Нядаўна Кітайскую Народную Рэспубліку наведала дэлегацыя Саюза пісьменнікаў СССР у складзе сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Юрыя Чарнічэнкі, намесніка галоўнага рэдактара «Литературной газеты» Аркадзія Удальцова і галоўнага рэдактара беларускага штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Анатоля Вярцінскага. У адказ дэлегацыя Саюза пісьменнікаў КНР — прадстаўнікоў літаратурных выданняў наведала нашу краіну. Тры дні яна гасцявала на Беларусі. У складзе дэлегацыі член праўлення Саюза пісьменнікаў Кітая намеснік старшыні Шанхайскага аддзялення Саюза пісьменнікаў У Цян, намеснік галоўнага рэдактара пекінскай газеты «Вэнь і бао», намеснік старшыні Асацыяцыі эсэістаў Кітая У Тайчан, намеснік старшыні аддзялення Саюза пісьменнікаў Гуандунскай правінцыі, галоўны рэдактар часопіса «Хуачэн» Лі Шыфей і першы сакратар пасольства КНР у Савецкім Саюзе Гуань Вэньсюэ.

Кітайскія літаратары былі прыняты ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Госці азнаёміліся з выдатнымі мясцінамі горада Мінска, наведалі музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Літаратурны музей Якуба Коласа, радзіму Янкі Купалы Вязынку, мемарыяльны комплекс «Хатынь», мінскі гадзіннікавы завод «Прамень», Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач». Яны мелі таксама гутарку ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Размова ў час сустрэчы ішла аб ходзе перабудовы ў Савецкім Саюзе і працэсах аднаўлення, аб пашырэнні ўзаемных творчых кантактаў.

Ад'язджаючы з Беларусі, кіраўнік дэлегацыі сямідзесяцівасьмігадовы У Цян сказаў: «Беларусь, Мінск зрабілі на мяне незабыўнае ўражанне. Адчуваю, што гэтыя дні гасцявання на Беларусі — самая радасная часіна майго жыцця. Калі ў мяне будзе яшчэ адна магчымасць прыехаць сюды разам са сваімі сябрамі, то я буду самым шчаслівым. Дзякуй маім дарагім сябрам! Да сустрэчы!»

**Л. ЧАРЭШНЯ**

Яраслаў ПАРХУТА

# ЯК ДЗЯЛІЛІ ПАЦЕРКУ

*(КАЗКА)*

Аднойчы Сарока знайшла на дарозе пацерку. Прыгожую, як ранішняя расінка. Ухапіла пацерку і паляцела да ракі на асіну — хваліцца сяброўкам.

Сяброўкі ўбачылі знаходку, замітусіліся:

— Ах, якая цудоўная пацерка! — закрычалі яны.— Давай падзелім. Каб кожнай было хоць па драбочку.

І пачалі валтузіцца, адна ў адной адбіраць тую пацерку, каб адшчыкнуць сабе пабольей. Пакуль не ўкацілі ў раку. А тады паселі на асіне, пазіраюць у вірок, дзе паблісквае пацерка, і бядуюць: як дастаць яе?

А тут якраз па рачным дне Рак сунецца. Сарокі — да яго:

— Зрабі добрую справу, дастань нашу пацерку. Вунь яна сярод каменьчыкаў зіхаціць!

Вырачыў Рак вочы, пакруціў вусамі, заўважыў пацерку, а ўзяць не можа. Работа ж тонкая! А ў яго кляшчоткі як лапаты...

— Сваіх клопатаў хапае! — узлаваўся рак і пасунуўся назад, у нару.

А тут якраз Бабёр бервяно сплаўляе. Сарокі — да яго:

— Выручай! Пацерка ў раку ўпала. Рак даставаў — не дастаў. Мо ты, Бабёр, дастанеш?

Бабёр прыткнуў бервяно да берага, набраў поўныя грудзі паветра і даў нырца. Доўга не было Бабра. А выплыў — высыпаў на бераг прыгаршчы рачнога пяску:

— Шукайце. Тут яна павінна быць.

І пагнаў далей сваё бервяно.

Перабралі сарокі пясок, а пацеркі не знайшлі.

А тут якраз Чапля з броду ляціць. Сарокі — да яе:

— Пацерку з вірка не можам вылавіць. Рак даставаў — не дастаў. Бабёр даставаў — не дастаў. Мо ты, Чапля, дастанеш?

Чапля пастаяла, падумала і ўвайшла ў ваду. Пачала дзюбаю шнарыць па дне. Шнарыла, шнарыла, пускала бурбалкі, а потым выбралася на бераг і кажа:

— Нічога не выйдзе. Шыя караткаватая.

І паляцела на свой луг.

Сядзяць на асіне сарокі ды адна адну папракаюць за прапажу. А тут якраз Аляпка бяжыць — шэранькая, у белым нагрудніčку птушачка. Сарокі — да яе:

— Мелі мы пацерку. Прыгожую, як ранішняя расінка. Ды ў раку наша пацерка ўкацілася. Рак даставаў — не дастаў. Бабёр даставаў — не дастаў. Чапля даставала — не дастала. Мо ты, Аляпка, дастанеш?

Аляпка як бегла плёсам, так і пабегла, толькі цяпер — пад ваду. Крутнулася там, на рачным дне, і гэтак жа хуценька выскачыла назад. У дзюбцы яна трымала пацерку, у якой увесь свет бачыўся. Паклала яе на пясок і пабегла далей.

А сарокі шухнулі з асіны на бераг і зноў пачалі адна ў адной адбіраць пацерку. Валтузяцца, крычаць. Н[illegible]акою такі гармідар пад[illegible] — хоць вушы затыкай.

Яны да гэтай пары тую пацерку ніяк падзяліць не могуць.



Мы з дзіцячага сада.

Фота З. ЮР'ЕВА.

## ЗАГАДКІ

Праз лясы, лугі, лагчыны
Два браты
Сястру вядуць
З блакітнымі вачамі.
(Рака і берагі)

Плача і вые,
Гуляе на полі,
Толькі ў рукі
Не возьмеш ніколі.
(Вецер)

На адным каромысле
Застылі два вядры.
Адно прывыкла слухаць,
Другое — гаварыць.
(Тэлефон)

Дзяўчынка кветку ўзяць хацела,
А кветка пырх — і паляцела.
Завецца як жа кветка тая,
Што крылцы мае і лятае!
(Матылёк).

Міхась ЗАСТОЛЬСКІ

## ДЛЯ КАГО БАСЕЙН?

— У санаторыі тры басейны. У адным — халодная вада, у другім — цёплая, а ў трэцім вады зусім няма... — чытала задачу Зоська.

— А каму патрэбен басейн без вады? — спытаў брат.

— Гэта, напэўна, для тых, хто не ўмее плаваць, — растлумачыла Зоська.

# крынічка

## ПЕСЕНЬКА ДЗЕДА-БАРАДЗЕДА

*Муз. Л. ЗАХЛЕЎНАГА* *Словы А. ВОЛЬСКАГА*




Я хаджу па белым свеце
І гляджу, як вы жывеце.
Калі трэба, памагу,
Бо я ўсё рабіць магу.

Прыпеў:

Хто я! Дзед-барадзед, абышоў белы свет,
А цяпер ў ціхі час завітаў да вас.
Хто я! Дзед-барадзед, абышоў белы свет,
А цяпер у ціхі час завітаў да вас, з[illegible]ў да вас.

З вамі побач буду ўсюды,
Трэба цуды — зробім цуды,
Трэба казка — раз, два, тры,
Вось і казка вам, сябры!

Прыпеў.

Вечарамі казкі баю,
Я ў запасе шмат іх маю.
А як прыйдзе казка ў сне,
Зноў кажыце дзякуй мне...

Прыпеў.

Я хаджу па белым свеце —
Ваш найлепшы сябар, дзеці,
І вядома нават мне,
Што вы бачыце ўва сне.

Прыпеў.

Фама РАМАШКА

## З ЧАГО ДЗЕНЬ ПАЧЫНАЕЦЦА?

Юля прачнулася позна. За акном свяціла сонейка, спявалі птушкі.

«Зноў праспала, — засмуцілася дзяўчынка. — Сябры ўжо недзе гуляюць».

Надзела блакітную, у белыя гарошынкі сукеначку — і хутчэй на двор.

— Адгадай загадку, — сустрэў яе Міця. — З чаго дзень пачынаецца?

Юля маўчала.

— А я ведаю, — пахваліўся Міця. — Мне тата сказаў.

Вечарам, калі мама прыгнала з пашы калгасных кароў, Юля расказала ёй пра Міцеву загадку.

— Не бядуй, — суцешыла мама. — Заўтра знойдзем адказ на загадку.

На досвітку мама разбудзіла Юлю. І яны разам пагналі на пашу кароў.

Неба на ўсходзе паружавела. З'явілася вогненная палоска.

— Глядзі, дачушка, дзень пачынаецца.

Пырснулі першыя промні. Мільёны іскрыстых расінак засвяціліся на траве.

— Цяпер ведаеш, з чаго дзень пачынаецца? — спытала мама.

— З сонейка! — радасна ўскрыкнула Юля і, крыху падумаўшы, дадала: — І з тваёй работы, мама.

— Не толькі з маёй, — сказала мама. — З работы ўсіх людзей.

Яўген ХВАЛЕЙ

### ШТО ЗА ІНТЭРНАТ

Незвычайны інтэрнат:
Тут звяроў і птушак шмат.
Ходзіць, дзівіцца Ігнат
З тыгра,
З малпаў,
З лісянят,
З чаплі,
Страуса,
Ільва...
Слон адзін,
Мядзведзі — два!
Ёсць і зебра,
Воўк,
Сава...
Не надзівіцца Ігнат.
Што за дзіўны інтэрнат!

Міхась САЗОНЧЫК

### ВЕРАБ'ІНАЯ ДАЧА

Дворык пад рабінаю —
Дача вераб'іная.
Хвост, нібы мяцёлку,
Распусціў
Вясёлы
Гаспадарык,
Бачу —
Прыбірае дачу.
«Жыў,
Жыў,
Жыў...» —
Шчыруе,
Хвосцікам шаруе,
Крыльцамі мяце —
У глухім куце,
Падбірае дзюбкай
Пух са сцежкі тупкай...
Так стараўся да вячэры
Гаспадарык шэры,
Змогся ён, руплівы,
Ды прыбраў на дзіва
Дворык пад рабінаю —
Дачу вераб'іную.

Міхась РУДЗІШКІН

### АРЭШКІ

На лясныя сцежкі
Падаюць арэшкі,
Жоўтыя, як зоркі.
Любяць іх вавёркі,
Любіць брацік мой
Грызці іх зімой,
Любяць тата, мама,
Ну і я — таксама.
Дзякуй за арэшкі
Вам, лясныя сцежкі.

Уладзімір МАЗГО

### ДОЖДЖ

Кажа радыё:
«Ападкі,
Моцныя вятры...»

Да абеду
Хмарак статкі
Поўзалі ўгары.

Малаком
Цурчэў на ганку
Дождж ык у вядро.

Ляскаў
Пугаю маланкі
Маладзенькі гром.

Анатоль ГРАЧАНІКАЎ

### ЦІКАЎНЫ ЎНУК

Рана ўнук чамусьці ўстаў
І адразу запытаў:
— Дзед!
З якой такой пары
Я—маленькі, ты—стары!

Дзед на ўнука паглядзеў,
Побач з ім на ложак сеў:

— Справа, мабыць, не ў пары.
Наш узрост — жыцця дары.
Мне таму старэнькім быць,
Каб цябе дабру вучыць...

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Зак. № 1401